Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 17. Вільня, Аўторак 8 Чэрвеня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Понацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Połocka 4).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

*Вільня, 7.VI. 1926.*

У прошлым нумары нашай газэты пад загалоўкам: „Старая песьня“ мы цьвярдзілі, што з Пілсудскага „рэвалюцыі“ ня будзе нічога новага і што хоць пры ўладзе будуць і новыя людзі, то ўсёроўна ў публічным жыцьці Польшчы пойдуць яны старым шляхам, ня сулячымі нам нічога добрага.

Вось-жа гэта бязумоўна праўда. Нашымі галоўнымі балячкамі зьяўляюцца школа і зямля. Што да школы, дык новы польскі ўрад, калі і будзе прымушаны зрабіць нам некаторыя ўступкі, дык поўне-ж зробіць гэта на аснове ўставаў аб двуязычнасьці ў школе. А прынцып двуязычнай школы для нас дужа небясьпечны і шкодны. Асабліва, калі ўзяць пад увагу той факт, што на нашых землях сядзяць школьныя куратары і інспэктары выразныя ворагі нашай школы. А спадзявацца таго, што ўрад сусім шчыра падойдзе да нашага школьніцтва і што заменіць школьных чыноўнікаў больш адпаведнымі людзьмі, няма ніякіх на гэта падстаў.

Узноў-жа што да зямлі, дык гэта справа яшчэ больш безнадзейная. Трэба ведаць, што так званыя „пілсудчыкі“ гэта самыя гарачыя староннікі вайсковай калёнізацыі нашых зямель чужынцамі. Польская лявіца ў Сойме ад польскіх сацыялістаў да Вітасоўцаў калёнізацыю нашых зямель чужынцамі падтрымлівала часта вастрэй, чым правіца. Сучаснае польскае асадніцтва нашых зямель, — гэта роднае дзіця польскай лявіцы, на якой Пілсудскі і апіраецца.

З гэтага ясна, што мы сапраўды не памыліліся, калі сучасны кірунак польскай палітыкі, бытцам нават на першы пагляд абноўленай, назвалі старой песьняй, бо сапраўды спадзявацца якога-небудзь палепшаньня для беларускага народу няма бадай ніякіх падстаў.

Аднак гэная старая песьня польскай сучаснай палітыкі можа аказацца і новай у сэнсе пагоршаньня як агульна польскага палажэньня, так і нашага беларускага.

Прадусім няма ніякіх падстаў судзіць, каб „новы“ курс польскай палітыкі, не зьмяняючы адпаведна самай сыстэмы дзяржаўнага ладу Польшчы, ды мог аздаравіць дужа цяжкое сучаснае фінансавае і эканамічнае жыцьцё. А цяжар гэткага жыцьця мусіць зносіць так-жа і наш беларускі селянін.

Апрача гэтага маемо яшчэ зьвярнуць грамадзянства ўвагу на адну рэч, каторая, праўда, сама праз сябе, як бытцам нічога і не гавора, а каторая, паводле нас, усё-ж дужа характэрная і дужа шмат пракажучая. Маем на воку прысягу прэзыдэнта Масьціцкага 4.VI. 1926. ня ў Сойме, а ў быўшым каралеўскім замку. Гэта ёсьць знак выразнай непашаны Сойму як такога і не прызнаваньня яго. Гэта ёсьць знак схоннасьці сучаснай польскай палітыкі да адзінаўладства. Гэта ёсьць знак барацьбы з дэмакрацыяй. Асабліва, гэта думка робіцца сусім праўдападобнай, калі прыпомнім сабе характэрыстыку „перавароту“, „захопленьні“ гэтага перавароту, характэрыстыку публічных выступленьняў Пілсудскага, самыя выбары прэзыдэнта, а так-жа адсутнасьць падчас прысягі польскіх сацыялістаў, а вялікая прысутнасьць правіцы. А кожнаму ясна, што пры такім абароце польскай палітыкі беларусы спадзявацца для сябе ня могуць нічога добрага.

Словам, старая песьня цяперашняй польскай палітыкі можа закончыцца значна іншай нотай.

## Палітычныя перамены у Польшчы і Беларусы.

(Паводле гутарак з пасламі Рагуляй і Ярэмічам).

У зьвязку з астатнімі падзеямі ў Польшчы наша рэдакцыя зьвярнулася да паслоў Рагулі і Ярэміча з просьбай падаць да публічнага ведама адносіны польскай сучаснай палітыкі да Беларускага Народу. Паслы нашы ахвотна падзяліліся з намі наступнымі весткамі:

Польская лявіца прад выбарам прэзыдэнта зьвярнулася да Беларускага Клюбу з мэтай паразуменьня. Дзеля гэтага адбылася нарада, на якой паслы Ярэміч і Рагуля дамагаючыся прызнаньня ад польскай лявіцы права для беларускага народу да самаазначэньня, аднача́сна паставілі гэткія постуляты практычнага характару:

1. Рарыкальна зьмяніць польскую палітыку да беларусаў, прызнаючы ім усе грамадзкія правы.

2. Перастаць арыштовываць і прасьледваць беларусаў праз адміністрацыю і паліцыю.

3. Даць амнэстыю палітычным вязьням як асуджаным, так і будучым пад сьледствам. Скасаваць кару сьмерці і палявыя суды.

4. Забясьпечыць асабістаю свабоду, свабоду сабраньняў, друку, а такжа скасаваць загад мін. Ратайскага, забараніўшага адбываць пасольскія справаздачуые вечы.

5. У справе школьніцтва:

a) З пачатку школьнага году залажыць 412 беларускіх пачаткавых школ, на каторыя ўжо зложаны дэклярацыі.

b) Безадкладна заснаваць трохмесячныя курсы для беларускіх вучыцялёў на 400 чал.

c) Заснаваць Беларускі інстытут для вучыцялёў сярэдніх беларускіх школ, а так-жа стварыць беларускі гуманістычны аддзел у Віленскім Унівэрсытэце.

d) Асыгнаваць грашовыя дапамогі для чатырох істнуючых беларускіх гімназіяў: у Вільні, Навагрудку, Радашковічах і Клецку. Выдаць пастаянныя канцэсіі на 8 беларускіх гімназіяў. Признаць правы матурыстам, канчаючым беларускія гімназіі.

e) Адчыніць 2 беларускія вучыцельскія сэмінарыі.

f) Увесьці беларускую мову, як выкладовую ў Духоўнай Праваслаўнай і Каталіцкай Сэмінарыі ў Вільні і Пінску.

g) Скасаваць сам прынцып двуязычнай школы, а такжа скасаваць загад Мін. Асьветы што да выкладаньня папольску гісторыі і географіі агульнай.

h) Арганізаваць беларускую адміністрацыю для беларускага школьніцтва.

6. Запэўніць свабоднае разьвіцьцё беларускім прасьветным і гаспадарчым арганізацыям, а так-жа прызнаць субсыдыі на беларускае выдавецтва.

7. Запэўніць поўную свабоду веры і перастаць мяшацца ўраду ў жыцьцё царквы і касьцёла.

8. Радыкальна зьмяніць адносіны адміністрацыі да беларусаў у справе абыватэльства.

9. Зьмяніць на землях беларускіх адміністрацыю, а прадусім ваяводаў, старастаў, земскіх камісараў і інш.

10. Запэўніць свабоду выбараў у Сойм і Сэнат на аснове істнуючага выбарнага закону.

11 Безадкладна загадаць выбары ў самаўрады на вольных і дэмакратычных асновах.

12. Выдаць дрэва і грашовыя дапамогі на адбудову зьнішчаных вайной сялянскіх гаспадарак.

13. Правесьці зямельную рэформу, прызнаючы зямлю для мяйсцовай люднасьці.

14. Признаць грашовыя дапамогі з Рольнага Банку для беларускіх сялян, купляючых зямлю з парцэляцыі.

15. Скасаваць вайсковае асадніцтва і прыватную калёнізацыю.

16. Признаць крэдыты для Беларускага Коопэратыўнага Банку ў Вільні з мэтай крэдыту беларускім коопэратывам, іншым гаспадарчым установам, а так-жа Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

17. Зьменшыць падаткі.

Польская лявіца на вышэй азначаныя пункты прынцыпова згадзілася, заяўляючы апрача таго, што яна стаіць за тэрыторыяльную аўтаномію для нашых зямель. Аканчальны адказ у гэтых справах Беларускаму Пасольскаму Клюбу будзе дадзены ў найбліжэйшым часе.

Апрача гэтага так-жа прад выбарам прэзыдэнта прэм'ер Бартэль запрасіў на нараду Бел. Пас. Клюб. Былі дэлегаваны тыя-ж паслы—Ярэміч і Рагуля. Прэм'ер Бартэль абяцаў поўную зьмену дагэтуляшняй польскай да нас палітыкі.

У справе сваей тактыкі што да выбараў прэзыдэнта Беларускі Пасольскі Клюб выдаў прад выбарам комунікат гэткага зьместу:

# Рак і Рыбкі.

(Байка).

Было гэта так:
Уцёкшы з сеткі Рак
Сам зрабіўся рыбаловам;
Адным словам,
У начную пару
Нацягаў у сваю нару
Рыбкаў рожных сартоў,
Плоткаў, Карасёў і Акунёў.
Паставіў стражу і прыказ даў такі,
Каб усім Рыбкам Ракі
Паадгрызалі хвасты і плаўкі
І вучылі іх так
Поўзаць як Рак.
Прыказаў, знача, вучыць,
Каб Рыбаў на Ракоў перарабіць.
Вось Рак Рыбкаў грыз ды біў
І па своему вучыў;
Аж Рыбкі сталі схадзіцца
Ды радзіць як свабоды дабіцца,
Каб ня служыць дураку
Распанеўшаму Раку.
Гады йшлі.
Рыбкам плаўкі ўсё расьлі,
І лік іхні усё расьце.
Аж дастаў Рак па хвасьце
На канчатак рыбалоў
Апынуўся ў сетцы йзноў
. . . . . . . . . .
Хто тут Рак, а хто Рыба,
Кожнаму вядома хіба.

*Нецярплівы Аляксандр.*

---

«Беларускі Пасольскі Клюб, у справе кандыдата на Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай Польскай, сьцьвярджае, што не аддасьць сваіх галасоў за кандыдата правіцовага, з натуры рэчы, будучага сымвалам рэакцыі і ўціску, але так-жа, ня маючы пазытыўных падстаў галасаваць за Пілсудскага, устрымаецца ад галасаваньня і на гэтага кандыдата, хоць і салідарызуемся з яго майскім выступленьнем процiў рэакцыі».

Гэткай тактыкі трымаўся Беларускі Пасольскі Клюб што да асобы Пілсудскага, а пасьля яго адмовы быць прэзыдэнтам, так-жа і да асобы выбранага Прэзыдэнта Масьціцкага.

# З Радавай Беларусі.

### Жыды—земляробы.

«Савецкая Беларусь» (7.V.1926) пад гэткім загалоўкам падаець наступныя лічбы, што да надзяляньня жыдоў зямлёй у Бабруйшчыне:

«Цяпер налічваецца каля 7654 дзесяцін, занятых яўрэйскім сельскімі гаспадаркамі з лікам насяленьня ў 6592 душы.

Па формах землякарыстаньня ўся плошча разьмяркоўваецца такім парадкам: 16 калектыўных гаспадарак на плошчы 2630 дзесяцін (болей 37 проц. усей плошчы) з насяленьнем у 3782 душы, 5 пасёлкаў (514 дзесяцін, 382 душы насяленьня) і яўрэйскія гаспадаркі, якія знаходзяцца ў вёсках і пасёлках (791 дзесяціна, 1480 душ).

За апошнія паўтары гады зьявілася 11 калектыўных гаспадарак і 5 пасёлкаў».

### Перасяленьне беларусаў.

У ўспомняным нумары «Савец. Бел.» аб гэтым знаходзім такія даныя:

«У гэтым годзе Слуцкай акрузе прадстаўлена ўсяго для перасяленьня на Далёкі Усход мейсцаў на 60 душ, з правам накіраваньня туды хадакоў у ліку 110 душ. Паступіла-жа заяў на перасяленьне ад 306 сямей, маючых 1600 душ. Большай часткай заявы на перасяленьне падаюць па Старадароскаму (140 заяў) і Любаньскаму (36 заяў) райёнах, дзе зямля па сваей якасьці самая кепская з усёй акругі. Акрамя пасылкі хадакоў у гетым годзе ўжо выехала ў Сібір 25 сем'яў-перасяленцаў з колькасьцю 150 душ на атрыманую імі зямлю ў мінулым годзе. Наагул трэба сказаць, што азначаная колькасьць адпушчаных мейсц не здавальняе патрэбаў акругі ў перасяленьні. У будучым годзе раскладку для Случчыны трэба будзе павялічыць».

# Беларусы у Чэхаславакіі.

У Празе нядаўна вышаў у сьвет № 1 часопісі «беларускага паступовага студэнства» пад назовам «Прамень» з такім зьместам:

Ад рэдакцыі. Родовіч — Песьня Ратая. Д.—Сялянскі Саюз і яго антысялянская роля. О.—Некалькі ўваг аб становішчы ў Польшчы. Г.—Троцкі аб беларускай партыі эс-эраў. Культурнік. — Аб беларусізацыі. Волькер. — Вершы. Жылка.—Вершы. Волькер.—Служка. Рознае: Хроніка беларускай культуры; Латвія; Беларуская эміграцыя ў Празе; Новае заваеваньне беларускай культуры; Нашы ў Чэхаславакіі; Ліст да рэдакцыі.

Уся «паступовасьць» гэтай часопісі ў тым, што піша розныя баналюкі, стараецца ўжываць да інакш думаючых як можа крапчэйшых слаўцоў, ну-й бароніць палітыку камуністаў не «за совесть, но за страх». Агульнае ўражэньне ад гэтай часапісі дужа непаважная і прыкрае.

# З Польшчы.

### Выбары Прэзыдэнта.

### Галасаваньне 31 мая.

Пасьля адчыненьня маршалкам Ратаем сходу і выбару прэзыдыуму, Нацыянальны Збор прыступіў да выбару прэзыдэнта рэспублікі.

Былі пададзены дзьве кандыдатуры: пэпэасы выставілі кандыдатуру Маршалка Пілсудскага, эндэкі—пазнанскага ваеводы Бніньскага.

Пры падачы галасоў беларускія і ўкраінскія паслы заявілі, што яны ад учасьця ў выбарах устрымліваюцца. Тое-ж заявілі: польскі клюб Незалежнай Хлопскай Партыі і камуністы.

Пасьля падлічэньня галасоў аказалася, што Маршалак Пілсудскі атрымаў 292 галасы,—знача абсалютную большасьць. Ваявода Бніньскі атрымаў толькі 193 галасы. Пустых галасоў (белых картачак) пададзена 61.

Гэтак выбар паў на Маршалка Пілсудскага.

### Адмова Маршалка Пілсудскага.

Калі марш. Ратай разам з прэм'ерам Бартэлем прыехалі да Марш. Пілсудскага паведаміць аб выбары яго на Прээыдэнта, Марш. Пілсудскі заявіў, што выбару ня прыйме і ад становішча Прэзыдэнта адмаўляецца.

### Галасаваньне 1-га чэрвеня.

Выстаўлены тры кандыдатуры: праф. Ігната Мосьціцкага (рэкамэндаванага Марш. Пілскудскім), пасла Марка (П. П. С.) і пазнанскага ваеводы Бніньскага (эндэка).

Пры першым галасаваньні Мосьціцкі атрымаў 215 галасоў, Бніньскі—211, Марэк—56. Пустых картачак пададзена 63.

З прычыны таго, што ніхто з кандыдатаў не атрымаў абсалютнае большасьці, галасаваньне было паўторана, прычым кандыдатура Марка адпала. Паміж астаўшыміся двума кандыдатамі галасы падзяліліся гэтак: Мосьціцкі—280 галасоў, Бніньскі—200. Такім парадкам выбраны за Прэзыдэнта праф. Мосьціцкі.

### Так-жа кандыдаты на польскага прэзыдэнта.

У часе выбараў новага прэзыдэнта некатарыя паслы, а ў тым ліку і паслы з Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады галасавалі на пасла з

---

**Філ. Канд. Я. Станкевіч.**

# КНІГАПІСЬ.

**Крывіч**, *месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця пад рэдакцыяй В. Ластоўскага.* № 10 за ліпень—сьнежань 1925 г. Коўня. 124 балоны, у 16°.

(Працяг).

У далейшай стацьці *Власта: „Пачатны летапісь аб Крывічах у асьвятленьні гістарычнай крытыкі“* ізноў даводзіцца немагчымае, што спачатку было адно нашае племя — Крывічы, каторыя потым сталі розна называцца. Тутака-ж Власт, як А. Матач наперадзе даводзіць, што ноўгарадзкія Словене крывіцкага паходжаньня. Крыху вышэй я зацеміў, што гэта немагчыма. Власт апіраецца на сьпісак летапісу, у каторым кажацца: „И по сихъ братьи родъ ихъ держати почаша княжскіе въ Поляхъ, а въ Деревлях свое, а Дреговичи свое, а Словѣни свое въ Новгородѣ, а другое на Полотѣ, иже Полочане, отъ нихъ же Кривичи, иже сѣдять на верх Волги, и на верхъ Двины и на верхъ Днѣпра, ихъ же град есть Смоленьскъ, тудѣ бо сѣдять Кривичи; та же Сѣверъ отъ нихъ“. З гэтага Власт відзіць, што ўсе пералічаныя тут плямёны ёсьць Крывічы; відзіць гэта консэквэнтней за некатарых расейскіх наўчоных, што выходзячы з гэтага тэксту, Словенаў лучаць з Крывічамі ў вадно плямя, але Северанаў адлучаюць. Але і так, як Власт, разумеці ня можна. Ня кажучы аб тым, што мовы гэтаму зусімчыста пярэчаць, у вусіх сьпісках летапісных апрача прыведзенага, Словене, Северане і Крывічы рэзка адлучаны адны ад адных. А тутака яны будуць злучаны, калі на помач тэксту прыдзе дагадка чытачова, г. зн., калі па „Новгородѣ“ пад словамі „а другое“ будзем разумець другое княства Словенаў, а пасьля „Кривичи“ словы „таже Сѣвер отъ нихъ“ зразумеем так, што Север паходзіць ад Крывічоў. Але гэтак разумеці ня маем жаднага права. Шмат прырадней будзе разумеці прыведзеныя словы ў значэньню прастаровым. Словамі „а другое на Полотѣ“ аўтар летапісу хацеў сказаці „а далейшае княжэньне славянскае (не словенское) было на Полоце“; а словамі „таже Сѣверъ отъ них“ хацеў сказаці: „так сама далей ад іх сядзіць Север“.

Другім довадам Властавым, што Ноўгарадцы былі Крывічы ёсьцека прамова на ноўгарадзкім вечу прыхільнікаў маскоўскага князя пададзеная пад 1471 г. у Ускрэсенскім сьпіску летапісу.

У гэнай прамове Белавозерская Весь названа крывіцкай*) Але гэтакая позьняя вестка і пры гэтым яшчэ адзіная на працягу ўсяе гісторыі не заслужуе жаднае веры. Магла зьявіцца з прычыны якогась недагляду і бяссумлеву да Крывічоў не адносіцца. Ужо тое, што словы „Кривичску Весь“ былі незразумелы, патрабавалі паясьненьня, паказуе на блытаніну.

Каб выясьніць словы летапісцавы, што „Радимичи и Вятичи отъ Ляховъ“ Власт робіць гэтакаю гіпотэзу. Радзім і Вятка прышлі не з плямёнамі, але на чале купецка-разбойніцкіх дружынаў заходне-славянскага плямя Люцічаў (начай, як думае Власт, называных Волатамі), падобна да таго як прышлі князі Русы з сваймі дружынамі. Ад Радзіма і Вяткі часьць нашых прэдкаў сталі называцца Радзімічамі і Вяцічамі. Гэтакая гіпотэза крытычнейшая за гіпотэзу Шахматаву.**) Але як і гіпотэза Шахматава, яна вельмі фантастычная і не апіраецца на жадных навуковых данных. Дзеля гэтага іншыя могуць перайначаць яе, заменяць на свае, накшыя, на'т процілежныя, каторыя спадару Власту могуць зусім непадабацца.

Паводле цяперашніх нашых нарэччаў бачым, што мова Вяцічаў і Радзімічаў была аднолькавая з моваю Дрыгвічаў, а крышку розьнілася ад мовы Крывічоў і Северанаў. З гэтага выходзіць, што Вяцічы і Радзімічы былі безпасярэднімі суседзямі дрыгвіцкімі, г. зн. мусілі жыці на заходзе цяперашняе нашае Бацькаўшчыны, потым перасяліліся на ўсход. Дык перасяленьні гэтых двух беларускіх плямёнаў з заходу на ўсход былі і гэта адбілася ў пачатным летапісе. Што Радзімічы і Вяцічы ня былі „ад Ляхаў“, г. зн. ад заходне-славянскіх плямёнаў, ізноў ясна паказуе мова. Летапісец, кажучы, што Радзімічы і Вяцічы ад Ляхаў, выказуе гэтым свой асабісты пагляд, акі ня мусіць быць згодны з праўдаю. Словы летапісцавы значаць толькі, што ён і іншыя Украінцы, а мусіць і Словене, пазьнейшыя Маскалі, лічылі нашых прэдкаў бліжшымі заходня-славянскім плямёнам, як сабе. Прыход Радзімічаў і Вяцічаў з заходу нашае Бацькаўшчыны, некатарая згода ў мове (дзеканьне і цеканьне) ўсяго нашага народу з заходне славянскімі „ляскімі“ мовамі, барацьба з нашымі прэдкамі Украінцаў і Словенаў за дарогу Дняпром, — усё гэта схінала апошніх да падобнага пагляду. Дык словы летапісцавы паказуюць не на якоесь іншае паходжаньне часьці нашага народу або яго князёў, але на тое, што ў сьвядомасьці тагачасных Украінцаў і Маскалёў нашыя прэдкі былі асобнымі і прытым значна далёкім ад іх народам. А гэта згаджаецца з запраўдным станам.

Па гэтым бачым стацьцю А. Матача аб правапісе „Насьпеўшае пытаньне“. Есьцека ў нас некалькі чалавекаў, што, ня будучы адумыслоўцамі філёлёгамі, пішуць некатарыя рэчы, маючыя сувязь з філёлёгіяй. Ня можна сказаці, каб гэтая праца іхняя ня была карыснаю: ё некатарыя рэчы вельмі цікаўныя і дарагія. На жаль А. Матача ня можна залічыць да такіх рабачаёў. Ягоная стацьця—гэта адзін жах. Калі іншыя займаюцца найчасьцей слоўнікам, г. зн. тым, што найпрыступнейшае неадумыслоўцу, а рэшты дакранаюцца толькі з боку практычнага на аснове ўстаноўленых філёлёгамі тэорэтычных правілаў, А. Матач

---

*) Всѣ земли наши крести: Русскую, и нашу Словѣнскую, и Мерску и Кривичску Весь, рекше Белоозерскую, и Муромскую и Вятичи“.

**) Введеніе в курс ист. рус. яз. Ленинград. 1916. і іншыя.

польскай Незалежнай Сялянскай Партыі—Фідэркевіча, атрымаўшага 19 галасоў.

З паміж іншых няважных картачак знойдзены і з такімі напісамі: „Шчэ нэ вмэрла Украіна", „Лялька польскага Мусаліняга", „Троцкі" і „Дзержынскі".

Гэты апошні, паляк па нацыянальнасьці, як ведама, стаяў на чале ўсіх расейскіх чрэзвычаек, а пасьля камандаваў Галоўным Палітычным Упраўленіем (ГПУ).

### Адстаўка кабінэту.

4-га чэрвеня на паседжаньні Рады Міністраў прэм'ер Бартэл паведаміў сяброў ураду, што пастанавіў падацца ў адстаўку з усім кабінэтам. Адстаўку Прэзыдэнт прыняў.

Утварэньне новага кабінэту міністраў даручана ізноў Бартэлю.

## З заграніцы.

### Ваенны бунт у Партугаліі.

Войскі, ідучыя на сталіцу Партугаліі Лізбону, паставілі дамаганьне, каб у склад новага кабінэту ўвайшлі непартыйныя адзінкі.

### Новы Літоўскі кабінэт.

Дзеля аслабленьня правай часьці літоўскага сойму ў часе нядаўных выбараў, кабінэт Бістраса падаў у адстаўку. Новы ўрад творыць людовец Сьлежэвічус.

### Смэтона аб адносінах Літвы да Польшчы.

Былы прэзыдэнт Літвы і правадыр народнікаў Смэтона заявіў прадстаўнікам Клайпэдзкай прэсы, што палажэньне Літвы на міжнародным грунце ён ня лічыць дасканальным, дзеля адасобленнасьці Літвы і добрых адносін між Латвіяй і Эстоніяй з аднаго боку, а Польшчай з другога. Літва — паводле Смэтоны—ня можа быць у добрых адносінах з Польшчай дзеля рожнародных інтарэсаў.

Далей Смэтона, прызнаючыся да раду памылак у адносінах да Польшчы, трымаецца думкі, што на будучыну трэба ўзяць болей рашучы курс адносна Польшчы і апірацца больш на Нямеччыну пры добрых адносінах з С. С. Р. Р.

### Хатняя вайна ў Кітаі і С. С. Р. Р.

На чыгунцы між Пэкінам і Тьян-Цзінам збунтавалася войска. Адначасна часьці народнай арміі занялі Чан-Пінг-Чоў 20 міль ад Пэкіну.

Паводле вестак з Бэрліна, кіраўніцтва часьцямі народнай арміі, напаўшай на Чанг-Цзо-Лін, Спачывае ў руках расейскага савецкага афіцэра Грыгорьева, які снарады і аэрапланы атрымоўлівае з С. С. Р. Р.

## ХРОНІКА.

— **У Віленскай Беларускай Гімназіі.** Выпускныя экзамены для 7-ай і 8-ай клясы кончыліся. Вышла сёлета з абедзьвух клясаў 25 вучнаў. На разьвітаньне з Гімназіяй у суботу 29.V. вучні наладзілі вечарыну, дзе паставілі п'есу Аляхновіча п. наз. „Калісь". Праграму дапоўніла дэклямацыя, музыка і танцы на сцэне.

— **Суд над беларусамі.** Нядаўна ў Віленскім Акружным Судзе на лаве абвінавачаных сеў вучань Беларускай Гімназіі Юліян Саковіч і селянін Андрыловіч. Ставілася ім у віну распаўсюджываньне нелегальнай літэратуры, падбураючай да бунту проціў Польшчы і належаньне да тайнай палітычнай арганізацыі.

Пасьля разгляду справы пры зачыненых дзьвярох, Саковіча засудзілі на 2 гады папраўчага дому, а Андрыловіча на 2 гады крэпасьці.

— **Канфіската.** Па загаду Камісара Ураду м. Вільні канфіскавана № 11 і 13 „Беларускай Справы" за некалькі зьмешчаных стацей.

— **Студэнская экскурсыя ў Музэй.** У нядзелю 30.V. адбылася экскурсыя беларaскага студэнства ў Музэй ім. Ів. Луцкевіча. Сабраўшымся студэнтам ласкава даваў інфармацыі п. А. Луцкевіч. Трэба жалець, што шмат рэчаў у Музэі дзеля цеснаты памешканьня ня мае належнага мейсца і дзеля гэтага больш падрабязны агляд спатыкае вялікія труднасьці.

— **Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс на 4.VI. лічыўся 10 зл. 40 гр. за даляр. Рублі золатам—5,50, сярабром—3.40.

На чорнай гелдзе ў Вільні 4 чэрвеня плацілі за даляр 10 зл 40 гр.



## КУЛЬТУРНАЯ ПРАЦА НА ВЁСЦЫ.

(Вёска Дунайчыцы, Нясьвежскага павету).

Перадусім хачу разказаць, Браты Сяляне, як жывецца нам у нашай ваколіцы і як мы правялі сьвята Вялікдзень.

Ужо другі год, дзякуючы нашай вясковай інтэлігэнцыі, наша вёска прабудзілася ад тае сьпячкі, у якой і дагэтуль яшчэ знаходзяцца сумежныя вёскі. Есьць у нас будынак, былы раней магазын на збожжа. Праўда, перад вайной ён ня пуставаў, бо быў поўны насыпаны збожжам і гэта было вельмі добра дзеля бедных сялян, якія не маглі пракарміцца сваім хлебам круглы год, дык заўсёды ў вясну бралі па некалькі пудоў, каб нацягнуць якнебудзь да новага, але цяпер часы зьмяніліся. Была вайна і як думаю ўсім, браткі, вядома, што нямала прайшлю чужынцаў праз нашу старонку і кажды нічога свайго не пакінуў, а стараўся, каб што-небудзь сьцягнуць, дык пакрысе і развалачылі ўсё наша збожжа з магазыну, пакінулі голыя сьценкі, дык цяпер, калі мы апынуліся ў польскай гаспадарцы—ніхто не парупіўся аб нашых бедных сялянах, якія вясною жывуць крапівою, бо жыта няма ў магазыні; пазычыць няма адкуль і купіць не пад сілу. Войт гміны прыглядзяўся і да самага будынку: хацеў яго сьцягнуць ад нас, як сьцягнулі і збожжа, але нашыя сьвядомыя хлапцы зразумелі, што будзе дрэнна, дый парупіліся, каб якнебудзь скарыстаць гэны будынак дзеля сваіх сялян. Узяліся шчыра да працы, разабралі засекі, купілі дашчок, збудавалі сцэну, парабілі лаўкі і ўстроілі тэатр. І цяпер ужо другі год, як амаль што ня кожны месяц адбываюцца ў нас вечарыны-спэктаклі. І замест збожа нашы сяляне маюць цяпер духовую страву, расьце і разьвіваецца наша мастацтва.

На пачатку трудна было нашым бедным сьвядомым хлапцом, бо іх было мала, (толькі двух: Янка Корбут і Хведар Шыбут), а рэшта ніхто з нас не разумеў і не цаніў іхняе працы, а наадварот сьмяяліся з іх, што апрацуюць дзень і ноч і ніхто нічога ім за гэта ня плаціць; але яны ня кідалі сваёй працы, а павялі ўмела барацьбу з нашаю цемраю, часта кідаючы свае асабістыя работы, а хадзілі цэлымі тыднямі працаваць, пакуль давялі гэны будынак да парадку. І вось сцэна гатова—трэба аматараў. Біліся нашы хлапцы, гдзе і як набраць людцаў, каб згуляць хоць які маленькі абразок ў нашай роднай мове. Сцэну зрабілі ў двух, але тут у двух нічога ня выходзе; прасілі вясковых хлапцоў і дзяўчат, але тыя і гаварыць не хацелі пра нейкі там спэктакль, яны толькі ведалі, каб у сьвята сабраўшыся дзе ў хату або на вуліцы пасьмяяцца, палаяцца, а ня раз, нават, украўшы пудок, другі, збожжа ад бацькоў, насілі к Шлёмцы на гарэлку.

Вось, як я ўжо сказаў, дзякуючы гэным двум асобкам, якія зразумелі ўсю гэту бяду і гора нас цёмных і ўзяліся шчыра за працу ў працягу году вёска зусім пераіначылася. Праўда, на першы раз ня знайшлі яны сярод сваіх сялян ахвотнікаў да гэнае справы, прышлося зьвярнуцца да былага ў той час настаўніка польскае школы, хоць беларуса, але ў чужой вопратцы; была і адна вучыцелька

---

адразу палез у філёлёгію. А тутака ён чыста скандаліцца. Не магу разглядаці ўсяго, што піша А. Матач і ўказаваці ягонае няведаньне, бо гэта заняло-б шмат месца. Прывяду толькі некалькі прыкладаў. Гэтак у яго „*ѣ* у цэркоўна славянскай мове азначае мяккі гук *е*" (бал. 72). Але і там, дзе здавалася-б нефілёлёг Беларус мог-бы разабрацiся, А. Матач нічагусенькі ня цеміць.

Разгледжу некатарыя рады ягоныя.

Шмат месца ў яго займаюць дыфтоніі (двугукі). У прыватным лісьце я выказаў свой пагляд на *е* (э) на месцу *і* (ы) іншых беларускіх нарэччаў. Ліст гэты быў надрукаваны ў № 9 „Крывіча" (бал. 103). У лісьце я не кажу аб двугуках, але А. Матач пры гутарцы аб двугуках чамусьці апіраецца так-жа і на гэны мой ліст (там-жа). Двугукі цяперака чыста беларуская *дыялектычная* асаблівасьць. Даўней яны былі пашыраны шмат балей як цяперака. Ці абыймалі ўсю беларускаю зямлю, няма ведама. Уводзіць двугукі ў літаратурнаю нашаю мову немагчыма, бо вялікая большасьць Беларусаў ня мае двугукаў і аніяк не патраціць іх прачытаці. Дык двугукі могуць тольаставацiся ў мясцовай мове як дыялектычная яе асаблівасьць. Якія-колечы неўважлівыя адносіны да іх былі-б шкодны, як дзеля таго, што гэта чыста беларуская асаблівасьць, так і дзеля таго, што неўважэньне мясцовых асаблівасьцяў пацягне за сабой у такой мясцовасьці грэбаваньне і іншымі, ужо агульна-беларускімі, асаблівасьцямі.

Добра робіць наш сучасны правапіс, што ня робіць розьніцы ў канчатках творнага і меснага склонаў адзіночнае лічбы прыметаў (я быў у лесе з старым чалавекам, аб старым ч-ку), бо гэта-ж нашая агульная асаблівасьць, а двугукі ў месным склоне ведамы толькі ў абмежанай мясцовасьці. Нічагусенькі ня шкодзіць, што канчаткі двух склонаў аднолькавы; гэта звычайная зьява ў многіх прыпадках.

Далей аўтар выказуе гэтакаю „мудрасьць": „што датыча ўжыванай літары *ё*, то апошняя, строга гаворачы, не зьяўляецца галосным гукам, роўназначным *u*, а знакам дзеля зьмякчэньня цьвёрдых галосных, які паміж дзьвяма галоснымі абазначаецца *j* (=*й*) йотай. Ужываньне гэтай літары, як галоснай, слушна заменена літэрай *u* ў цяперашнім расійскім правопісе." Тутака кожнае слова страшная дурніна. Што літэра нё ё гук, а толькі знак гуку, гэта кожнаму ведама! Літэра *і* ня ўжываецца нідзе дзеля абазначэньня зьмякчэньня „цьвёдых" галосных і „цьвёрдыя" галосныя ня могуць зьмякчацца. Літара *і* ў нас і ў правапісе ўсяе Эўропы абазначае гук *і*, а літэра *j* (у нас *й*) абазначае гук *і* нескладовае, начай званае йотай або папуляуна *і* кароткім (ма*j*е=мае, мо*j*=мой). Кожная літэра абазначае той ці іншы гук ня дзеля свае прыроды, але ўмоўна. Гэтак і ў даным прыпадку: умоўна абазначае галосны гук *і* літарай *і* (прыкладам у слове *піць*), а гук *j* нескладовае абазначаем літэрай *й* (мой). А. Матач радзіць *і* замяніць на *u*. Апрача прыведзеных яго „довадаў" жадных іншых не дае. І даць іх ня можа. Знак *u* бяссумлеву горшы за *і* бо займае болей месца. Прыродна абазначаці гукі *і* і *j* знакамі бліжшымі да сябе. Дык ці не ляпей было-б ужываці *і* і *j*, як гэта робяць ня толькі народы, пішучыя лацінкай, але і некаторыя пішучыя кірыліцай (Сэрбы). Гэты проэкт даўно даў Я. Лёсік (у „Савецкай Беларусі" 1923 г.). Нічога ня значыць, што *u* ўжывалася ў старай нашай літэратуры (тамака ўжывалася і *і*). Старое добрае маем пакідаць, благое адкідаць. У старым пісьме ўжывалася *ъ*, *ѣ* і інш., але мы іх адкінулі. Пішучы *j* замест *й* мы пісалі-б зусім навукова.

Далей А. М. радзіць дзеля абазначэньня *g* (літэра лацінская) чужых словаў ужываці дзьве літары *кг* „як пісалі ў нас даўней". Даўней прабавалі абазначаць *g* (лац.) літэрамі *кг*, але барада зразумелі ўсю нявыгоду гэтага і замянілі асобнай літарай ґ, каторую маем ужываці цяперака.

Шкада, што А. Матачу „не зразуме. ым такжа зьяўляецца падвойнае мякчэньне гукаў *з*, *с*, *ц* перад мяккімі зычнымі, дзе гэтыя гукі мякчацца самі сабой па закону ўпадабленьня, бяз ужываньня пасьля іх *ь*, напр. сьмех, цьвек, зьдзерці". Трэба хоць крыху думаць, што пішаш! Ведама, гукі мякчацца незалежна ад жадных літараў, знакаў. Паводле А. Матача ня трэба было-б зусім пісаць, А. М. мусіць хоча сказаць, што пішучы *ь* па *з*, *с*, *ц* мы двойчы абазначаем мякчыню гэтых зычных. А гэта няпраўда. Мяккія зычныя *б*, *п*, *м* і *в* далей зусім не паказуюць, што перад імі маюць вымаўляцца мякка *з*, *с*, *ц*. У нашай мове гэта бывае заўсёды (сьпіць, зьвесьці і г. д.), але ў іншых мовах або зусім ня бывае, або не заўсёды бывае. Прыкладам у чэскай мове ніколі гэтага зьмякчэньня ня бывае, у ўкаінскай найчасьцей ня бывае, а не заўсёды ў польскай і маскоўскай (съесть, смѣнять і пад.) мове. Пішучы ў гэтым прыпадку *ь*, мы добра азначаем нашаю асаблівасьць. Ня важна тутака, ці да гэткага добрага азначэньня мы самі дадумаліся, ці мо' навучыліся ад кага іншага.

Прыведзеным не абмежуецца ўся „філёлёгія" Матачова, але я ўжо балей разглядаць ня буду.

Не апраўдуе А. Матача тое, што ён, напісаўшм на 7 балонах рознае дрэні, скромна канчае: „паручаючы сваю стацьцю для развагі працаўнікам крыўскага адраджэньня, ведаю, якія вялікія труднасьці зьвязаны з рэформай абэцэды і правопісу. Гэту рэформу могуць рабіць толькі высокааўтарытэтныя вучоныя ўстановы, а не паадзінокія асобы самавольным выступленьнем".

Думаючы, што А. Матачу запраўды дорага родная мова, у адказ на ўсе яго цьвярдыя рады дазволю сабе яму так сама параіць гэткае: дзеля добра беларускае мовы ня пісаць балей „філёлёгічных" стацьцёў.

(Далей будзе).

беларуска, каторая нават пробавала пісаць сцэнічныя творы, але ня мела прыхільнікаў да пастаноўкі іх на сцэні, хоць на першы раз нашы гаротныя ініцыятары згадзіліся згуляць і яе адзін твор, каб хоць якнябудзь зрабіць сякі-такі пачатак.

Прышлося нават папрасіць хлапцоў з іншых вёсак і з вялізарнаю труднасьцю наладзілі першую вечарыну-спэктакль. На першы раз згулялі „Чорт і баба“ камэдыю Ф. Аляхновіча і „Гандаль XX веку“ твор гэнае самае вучыцелькі. На вечар прышлі толькі вучні з пачаткавае школы, некалькі бацькоў гэных вучняў і 5—6 кабецін. Ня гледзячы на гэта, нашы паважаныя арганізатары не зложылі аружжа і не здалі пазыцыі, ладзячы і далей вячоркі і заахвочваючы сялян да гэнае справы. На другі раз зьявілася ўжо шмат болей, як у першы раз; гэта далало балей ахвоты і сілы нашым змагаром з цемраю і яны яшчэ ляпей узяліся за працу.

Паляцелі вечарыны за вечарынамі. Надта спадабаліся нашым сялянам, творы нашых пісьменьнікаў ў сваей роднай мове, пачалі інакш глядзець на гэну працу, знайшліся ахвотнікі сярод сваіх хлапцоў і дзяўчат, пачалі браць ролі, ляпей і ахвотней слухаць гэных людцаў і здаецца работа пашла сваім чарадом. Выпісалі газэту ў роднай мове, пачалі здабываць сякія-такія кніжкі і сабралі сваю бібліатэчку. Шмат кніжак ахвяраваў Х. Шыбут, а каб ляпей і балей уцягнуць людзей да культурнае працы, зарганізавалі Пажарную Каманду.

Праўда, і тут справа абстаяла дрэнна, бо быў толькі хлеў нөбам крыты, ды помпа і дзьве дрэнныя бочкі, але і тут узяліся нашыя хлопцы за работу. Сяк-так сабралі кулёў, накрылі хлеў, здабылі сякія-такія пажарніцкія прылады і іншыя дробныя рэчы.

Здавалася-б, што работа пайшла сваім чарадом, але ўсё гэта не надта спадабалася нашаму настаўніку паўшэхнае школы, разумеецца польскае. Каб перашкодзіць у нашай культурнай працы, ён ні забіўшы ні воднага цьвяка, і нават нябачыўшы калі і як будавалася сцэна, нічога нікаму ня кажучы, узяў дый запісаў яе ў школьны інвэнтар, думаючы, што яму ўдасца пры помачы свае вышэйшае ўлады, адабраць нашу мазалістую працу. Але гэты панок памыліўся, бо ніякія сілы не здалеюць адабраць у нас таго, што здабыта сваім крывавым мазалём і сталася інакш. Вельмі ён ужо добры быў настаўнік, дык казаў, што за „ценжке ту для мне повєтшэ“ і нячысьцік яго выняе ад нас, бо ня было цабра ад яго.

Прыехаў новы настаўнік і прыймаючы школьны інвэнтар спытаўся дзе сцэна, але нашы змагары і тут не здаліся, кажучы, на жаданьне настаўнікаў паказаць сцэну, што калі будзе спэктакль-вячарына, дык, калі ласка, прыхадзіце і ўбачыце. Дык вось як нашы настаўнікі дбалі аб нас цёмных, калі былі пастаўлены вучыць нашых дзетак і памагаць нам у нашай цемнаце, дык ім нават зрабілась страшна калі нашы лепшыя сыны пачалі кідаць першыя праменьчыні сьвятла ў нашу вёску і калі адчыніліся вочы і мы пачалі глядзець на сьвет Божы. І вось, Браты Беларусы, гэта добры прыклад дзеля нас як і чаго жадаюць нам чужынцы; дык, браткі, ня павінны мы верыць чужынцам ані сваім вырадкам, а павінны верыць і ісьці за сваімі сьвядомымі сынамі Бацькаўшчыны і надзеяцца на свае ўласныя сілы.

(Далей будзе).

# Пісьмы з вёскі.

## Гарой за свайго пасла.

**Любча,** Навагр. пав.

4-го мая гэтага году у м. Любчы адбыўся мітынг пасла Рагулі. На мітынгу было каля 3000 чалавек з гмін Любчанскай, Нягнявіцкай, Шчорсаўскай і Налібацкай.

З пачатку пасол Рагуля у сваей прамове гаварыў аб цяжкім грашавым і гаспадарчым становішчы гаспадарства. Як прычыны гэтага становішча ён выставіў з аднаго боку зладзейства польскіх урадоўцаў, надмерны лік іх, што вымагае ад дзяржавы надта вялікіх выдаткаў (больш як 2 мільярды злотых), а з другога боку адсутнасьць крэдыту, рынкаў збыту польскіх прамысловых вырабаў і тое, што польскія капіталістыя свае грошы не кладуць у краёвыя банкі а ў заграпічныя. Гаворачы аб гэтых рэчах ён падкрэсьліў, што падаткі зьдзіраюць толькі з сялян, а з вялікіх абшарнікаў не. Доказам гэтага ёсьць тое, што падатак маёнткові з сялян забраны, а абшарнікі і да гэтага часу ня заплацілі 750 мільёнаў злотых. Паводле яго ўвесь цяжар падаткаў, як дзяржаўных, так і самаўрадовых ляжыць на сялянах.

Далей пасол гаварыў аб самаўрадах, аб зямлі і школьніцтве. Паказаўшы ўсё кепскае, што робіцца, ён казаў і аб тым, што трэба рабіць, каб было ляпей.

А трэба вот што: «трэба зьменшыць лік урадоўцаў, паліцыі, ня трымаць шпіёнаў, такім чынам зьменшыць выдаткі, сьцягнуць з капіталістых і абшарнікаў падатак маёнтковы, а бедных заўсім звольніць ад падаткаў, ня купляць заграніцай непатрэбных рэчаў, як апэльсыны, лякеркі, парфуму і г. д., даць самаўрад дэмакратычны, зямлю сялянам бяз выкупу, лес і грошы на адбудову зьнішчаных гаспадарак. Але каб усё гэта зрабіць, то трэба дабівацца ўраду сялянска-работніцкага. Толькі селянін і работнік, ідучы ўпоруч, могуць выкаваць сабе лепшую долю. Гэта можа зьдзейсьніцца толькі тады, калі сяляне згуртуюцца ў свой Сялянскі Саюз, і гэты Саюз тады падасьць руку Саюзу мястовых работнікаў і разам пойдуць здабываць лепшую долю. Ні работнік бяз селяніна, ні селянін бяз работніка нічога ня здабудзе. Трэба зрабіць так, каб рабочы ня жыў на кошт селяніна, ані селянін на кошт работніка; роўная праца і роўныя здабыткі», сказаў Рагуля.

У канцы мітынгу п. Рагуля заверыў сялян, што ён як стаяў у абароне іх інтарэсаў, так і далей будзе стаяць. Ен сказаў: «калі вы заўважыце, што я вас прадаю, то тагды падзякуйце мне вось як: прыдзеце і скажэце: ты нас здрадзіў і вот табе падзяка, маеш табе атруты, а я яе зьем і лягу трупам».

На мітынгу была прынята аднагалосна рэзалюцыя наступнага зьместу: Беларускія сяляне, выражаюць поўнае даверые свайму паслу і лічучы яго шчырым абаронцам інтарэсаў беларускага сялянства, прыносяць яму падзяку за яго працу ў Сойме і дамагаюцца, каб сярод паслоў ня было партыйнай грызьні, каб яны ставілі лёзунгам: дабро народу, шчасьце, яго сьвет і свабоду ўперад усяго.

10-га мая такі-ж-самы мітынг таго-ж самага пасла адбыўся ў Навагрaдку на рынку. Народу было процьма. Цікава адзначыць, што падчас мітынгу ў Навагрaдку польскія гімназісты стаялі гдзесь за паўвярсты (блізка баялісь падыйсьці) і сьвісталі час ад часу, а адзін панок крыкнуў: «пан маеш загранічны пашпарт, едзь у Саўдэпію». На што п. Рагуля яму адказаў: «Я на сваей зямлі і нікуды не паеду, а ты едзь туды, адкуль прыехаў». Гэты адказ надта спадабаўся сялянам.

*Кміта.*

## Як спатыкаюць п. Паўлюкевіча.

**Баранавічы.**

Нейкі п. Паўлюкевіч з Вільні, раз'язджаючы па многапакутнай беларускай зямельцы, сіліцца чмуціць народ. Але цяпер ня 1922 год,—дурняў няма. Дзеля гэтага, ён прыезджаючы, напрыклад, да якога-колечы места, ці мястэчка і вельмі лёгка дастаючы пазваленьне ад уладаў на скліканьне мітынгу, пушчае ў публіку свае ананімныя адозвы аб маючым адбыцца нібы-то беларускім мітынгу. Народ думае, што гэта — нешта ад паслоў — і ідзе на мітынг. На мітынгу пан Паўлюкевіч гаворыць так, што невядома, ці ён дэпутат беларускі, ці—ліха яго ведае—хто! Гаворыць нібы ад імяні Пілсудскага і ўсё аб тым, што было ў Варшаве, прычым мяшае гарох з капустай. Людзі дзівяцца і ня ведаюць, што яму адказаць і аб чым яго спытаць.

Дык вось 28 траўня п. Паўлюкевіч завітаў і да Баранавіч, раскідаючы яшчэ 27 траўня адозвы аб маючым адбыцца беларускім мітынгу а гадз. 2 у цырку. Хто гэты мітынг склікае, — ня было ведама нікому. Дык 28-га а гадз. 2-ой народ паваліў да цырку пачуць, што скажуць нашы абаронцы другасортнага ў дзяржаве беларускага народу. Сабралося шмат. Чакаюць. Раптам на звозчыку каля цырку з'яўляецца п. Паўлюкевіч і ўсходзіць на сцэну ў цырку. Азірнуўся і прапануе сабраўшымся выбраць прэзыдыум мітынгу, маючы надзею, што народ пакліча на старшыню таго, з каторым ён прыехаў на звозчыку, аднак быў выбраны старшынёў нехта іншы, які адчыняючы сабраньне, прадставіў, як гэта ўжо ў нас у Баранавічах прынята, п. Паўлюкевіча сабраўшымся, даючы кароткі, але праўдзівы нарыс „дзеяцельнасьці“ п. Паўлюкевіча ў Польшчы і яго стасунак да ўсіх беларускіх палітычных кірункаў. Гэтага досыць было з Паўлюкевіча. Ен сарваўся з месца, пробаваў адняць голас старшыні мітынгу, але той на аднагалоснае жаданьне сабраўшыхся прадаўжаў рысаваць „дзеяльнасьць“ п. Паўлюкевіча. Тады апошні ўсхапіўся з месца і крыкнуў паліцыі, каб яна забараніла прамаўляць яму. Паліцыя рушылася са сваіх мейсц да старшыні, але той на жаданьне народу прадаўжаў гаварыць. Ну, дык Паўлюкевіч кінуўся з салі на ўцекі, забыўшы на сцэні свой капялюш і пальто. Сабраўшыяся праз увесь час крычалі: „Вон, правакатар, ня маеш голасу, служыў буржуазіі, а цяпер падлізываешся да польскай лявіцы, самазванец“ і гэтак далей, так-што наш п. Паўлюкевіч з цырку проста ўляцеў у цукерню, дзе з'еў некалька порцыяў лёдаў (марожанага). Відаць, горача яму было!

Дык вось—коратка кажучы—гэтак скончыўся мітынг п. Паўлюкевіча ў Баранавічах.

*Свойскі.*

## Ліквідацыя ці ўзнаўленьне.

В. **Алянец,** Ашмянскага пав.

Мінулай вясной у весцы Алянцы ставілі спэктакль, які вельмі ўсім спадабаўся. Жменька моладзі — гарачага сэрца і добрай волі — працавала не шкадуючы сіл, прыгатовуючы гэты першы — трэба сказаць — надта удатны паказ. Праграма вечарыны ня была багатай ды і ня сіліліся на надзвычайнае. Але тое што далі, з поўнай прастатой здолелі.

Ігралі «У кавалёвай хаце» Л. Родзевіча і «Модны шляхцюк» К. Каганца. Але-ж вось гэтым прадстаўленьнем надта былі незадаволены тутэйшыя паліцыянты, якія ў «Модным шляхцюку» відзелі .. карыкатуру на палякоў (!). Можа і ў п'есцэ «Кавалёва хата» (гэты драматычны абразок зьместам сваім і псыхалёгіяй далёкі палітыкі) зноў паліцыянты адчулі які агітацыйны характар?! Надта вялікая «субтэльнасьць» у гэтых паноў!

Вось-жа трэба сябе заўсёды пацешаць тым, што гэта-ж была брахня і што дурная гаворка як паднялася нечакана, так і зойдзе незаметна...

Дык паўстае пытаньне: ці ў нашых «мастакоў» не хапіла цярплівасьці, бо адвагі тут не патрэбна, што яны пакінулі сваю працу!

Хачу мець надзею што у іншай карэспандэнцыі буду вітаць узнаўленьне нашага «тэатру».

Тады ўжо будзе магчыма пагаварыць аб яго патрэбах. *У. Абакановіч.*

## Бітва паліцыянтаў з бабамі.

Вёска **Юраўляны,** Сакольскага павету.

У нас ужо дайшло да таго, што гледзячы як бяруць усё на падаткі, аж чалавека страх бярэ. Прыходзіцца аддаць астатнюю кабылу, каб ад сэквэстратара адвязацца. Нядаўна зьявіўся да нас гэты пан з двумя паліцыянтамі і кажа, што хоча забраць усе запісаныя рэчы на падаткі. Солтыс хацеў сабраць грамаду. Можа-б хто пляціў грашмі. Але сэквэстратар заявіў, што ён прыехаў не сабіраць грамаду, а забіраць апісаныя рэчы. І пашлі з канца вёскі браць цяляты, авечкі, сьвіньні, а як хто ня меў—бралі астатні пуд хлеба. На гэту бяду сабраліся з усей вёскі бабы ды ў плач. Не захацелі-ж, пэўне, аставацца бяз хлеба, дык папробавалі не даваць паліцыі адбіраць іх уласнасьць.

Паліцыянты пачалі разганяць баб, але ў такі спосаб, што адна аказалася з выкручанай нагой, а другая з перабітай рукой.

Ня гледзячы на гэты „страты“, бабы аднак паліцыянтаў перамаглі, бо сэквэстратар больш рэчаў не дастаў. Затое аб'явілі гэтых баб бальшавікамі і 3-х арыштавалі. *Вясковы хлапец.*

# УСЯЧЫНА.

## Сколькі ўрадаў упраўляла Польшчай.

За час ад 18 лістапада 1918 г. да 5 мая 1926 года ўпраўляла Польшчай 14 габінэтаў.

1. Габінэт Енджэя Морачэўскага (ад 18 ліст. 1918 г. да 16 студзеня 1819 г.). 2. Ігнацага Падарэўскага (ад 16 студзеня да 19 сьнежня 1919 г.). 3. Леопольда Скульскага (ад 13 сьнежня да 23 чэрвеня 1920 г.). 4. Уладыслава Грабскага (ад 23 да 24 ліпня 1920 г.). 5. Вінцэнтага Вітаса (ад 24 ліпня 1920 г. да 13 верасьня 1921 г.). 6. Антоняга Панікоўскага (ад 14 верасьня 1921 г. да 5 марца 1922 г.). 7. Антоняга Панікоўскага (ад 10 марца да 6 чэрвеня 1922 г.). 8. Артура Сьлівінскага (ад 28 чэрвеня да 7 ліпня 1922 г.). 9. Юльюша Новака (ад 13 ліпня да 10 сьнежня 1922 г.). 10. Уладыслава Сікорскага (ад 16 сьнежня 1922 г. да 26 мая 1923 г.). 11. Вінцэнтага Вітаса (ад 28 мая да 15 сьнежня 1923 г.). 12. Уладыслава Грабскага (ад 19 сьнежня 1923 г. да 13 лістапада 1925 г.). 13. Александра Скшынскага (ад 20 лістапада 1925 г. да 5 мая 1926 г.). 14. Вінцэнтага Вітаса, які ня ўсьпеў узяць уладу. 15. Цяперашні Бартля.

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** **Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны**—Вільня, Людвісарская вул. № 1.